

THE WALKING DEAD
36
$2.99
$3.55 CAN
image
.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ
ХАДЗЯЧЫЯ МЕРЦВЯКІ #36 (2003) ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ: COMICSBY.BY
CLIFF
KIRKMAN • ADLARD • RATHBURN


COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ
CLIFF 6
This Sorrowful Life
Гэта сумнае жыццё
ЧАСТКА 6(6)
IMAGECOMICS.COM


ШТО ТЫ РОБІШ?!
ПРЫГЛЯДЗІ ЗА КАРЛАМ ДЛЯ МЯНЕ.
Я ІДУ ЗА ІМ!
Я ЗБІРАЮСЯ СПЫНІЦЬ МАРЦІНЭЗА РАНЕЙ, ЧЫМ ЁН ВЕРНЕЦЦА Ў ВУДБЭРЫ... РАНЕЙ, ЧЫМ ЁН РАСКАЖА ІМ, ДЗЕ НАС ЗНАЙСЦІ.
КАЛІ ЁН НЕ ВЕДАЕ МЯСЦОВАСЦЬ, ТАДЫ АДЗІНЫ ШЛЯХ, ЯКІ ЁН ВЕДАЕ, ГЭТА ДАРОГА, ПА ЯКОЙ МЫ ВЯРНУЛІСЯ СЮДЫ. КАЛІ Я БУДУ НА МАШЫНЕ, ДАГНАЦЬ ЯГО БУДЗЕ ВЕЛЬМІ ПРОСТА.
І ШТО ПОТЫМ?
Я СПЫНЮ ЯГО...
ЯК ЛІЧЫШ, ЧАМУ Я АДПРАЎЛЯЮСЯ ТУДЫ АДЗІН?
АДЗІН?! ТЫ НЕ...
THUNK!
РЫК! ТЫ НЯ МОЖАШ ЗРАБІЦЬ ГЭТА АДЗІН!
РЫК!


VROOM!
ХАХ.
ГЭТЫ ХЛО- ПЕЦ ШТОСЦІ ЗАДУМАЎ... І ЁН ЗРОБІЦЬ ГЭТА, ЧЫМ БЫ ГЭТА НІ БЫЛО, РАЗУМЕЕШ АБ ЧЫМ Я?
ЁН ГЭТА ЗРОБІЦЬ... ЁН ЗРОБІЦЬ.
ДАВАЙ, КАРЛ. ПОЙДЗЕМ ЗНОЙДЗЕМ ТВАЮ МАЦІ.


ТАЙРЫС... ЯК ТЫ ЛІЧЫШ, ТАТА ЛЮБІЦЬ МЯНЕ? У СЭНСЕ, ПА- САПРАЎДНАМУ?
Я НЕ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ЛЮБІЦЬ.
КАНЕШНЕ, ТВОЙ ТАТА ЛЮБІЦЬ ЦЯБЕ.
ЧАМУ ТЫ ТАК КАЖАШ, КАРЛ?
НЯ ВЕДАЮ, ПРОСТА ЁН ПРАЦЯГВАЕ ЎХАДЗІЦЬ. ЁН КАЗАЎ МНЕ, ШТО ЁН БОЛЬШ НЕ ПАКІНЕ НАС АДНЫХ... І ЗРАБІЎ ГЭТА. МАЦІ ПЛАЧА ПА НАЧАХ, КАЛІ ЁН НЕ З НАМІ. ЧАСАМ З-ЗА ГЭТАГА Я НЕ МАГУ ЗАСНУЦЬ.
КАЛІ Б ЁН ЛЮБІЎ НАС, МАЮ МАЦІ І МЯНЕ, ТАДЫ ЁН БЫ НЕ ПАКІДАЎ НАС ТАК ЧАСТА, ТАК ЖА?
ТАМУ Я І БАЮ- СЯ, ШТО ЁН НЕ ЛЮБІЦЬ МЯНЕ.
ПАСЛУХАЙ, СЫНОК. ТВОЙ БАЦЬКА ВЕЛЬМІ МОЦНА ЛЮБІЦЬ ВАС... ТВОЙ БАЦЬ- КА ПРОСТА ДОБРЫ ЧАЛА- ВЕК. КАЛІ ЁН УХОДЗІЦЬ, ЁН РОБІЦЬ ГЭТА, КАБ АБАРАНІЦЬ ЦЯБЕ І ТВАЮ МАЦІ... І ЎСІХ НАС.
ТВОЙ ТАТА ВЯЛІКІ ЧАЛА- ВЕК, ЁН УТРЫМЛІВАЕ ГЭТУ СУПОЛКУ РАЗАМ... НА- ВАТ КАЛІ ЁН НЕ ТУТ. УСЕ ПРЫХОДЗЯЦЬ ДА ЯГО ЗА ПАРАДАЙ І АДАБРЭННЕМ... ГЭТА ЦЯЖКІ КРЫЖ ДЛЯ ЯГО.
ТВОЙ ТАТА РОБІЦЬ ТОЕ, ШТО ТРЭ- БА... І ШТО БЫ ЁН НЕ РАБІЎ... ГЭТА РОБІЦЦА ДЛЯ НАС.
ЗРАЗУМЕЛА?
Я... ЛІЧУ, ШТО ТАК.


ВОСЬ ЛАЙНО!
WRAMM!
WHUMP!


ЗВАР'ЯЦЕЛЫ ВЫБЛЯДАК. НЕ... РУХАЙСЯ.
ЛАЙНЮК.
ХАЦЕЎ... ХАЦЕЎ ЗАБІЦЬ МЯНЕ. НЕ ЗМОЖАШ...
ЗАБІЦЬ МЯНЕ...
ТЫ ЗБІРАЎСЯ ПРЫВЕСЦІ ІХ ПРАМА ДА НАС?! ЗБІРАЎСЯ ВЫДАСЦЬ УСІХ НАС?! СТВАРЫЦЬ НЕБЯСПЕЧНАЕ СТАНОВІШЧА... ДЛЯ МАЁЙ СЯМ'І?!
ТЫ ЗБІРАЎСЯ ЗДРАДЗІЦЬ НАМ?!
WROKK!
ТЫ ЭГАІСТЫЧНЫ КАВАЛАК ЛАЙНА. У ВАС ЁСЦЬ... ПАКОІ... ХАРЧАВАННЕ ДЛЯ ЎСІХ У ВУДБЭРЫ... ДЛЯ ЦЭЛАГА ЧОРТАВАГА ГОРАДА!
ДЛЯ ЎСІХ.
КХЕ!
КХА!
ПЛОТ НА ВУЛІЦЫ... ШТО АБАРАНЯЕ ГОРАД... ДРЭННА ДАПАМАГАЕ. КУСАЧЫЯ... ЯНЫ ЗАЎСЁДЫ... ЗНАХОДЗЯЦЬ ШЧЫЛІНЫ... МЫ ЎВЕСЬ ЧАС АДНАЎЛЯЕМ АГАРОДЖУ.
А ТУРМА АБАРОНЕНА.
МАЕ ЛЮДЗІ ТАК САМА МАЮЦЬ ПРАВА БЫЦЬ У БЯСПЕЦЫ.


ПАСЛЯ ТАГО, ШТО ЯНЫ ЗРАБІЛІ З НАМІ?! СА МНОЙ?! З МІЧОНІ?! ТЫ ПРЫВЯДЗЕШ ІХ ДА НАС?!
ТЫ ПРЫВЯ-ДЗЕШ ЯГО ДА НАС?!
ВЫ ЯК АТРУТА… ГОРШ ЧУМЫ, ГОРШ МЕРЦВЯКОЎ! ВЫ АРГАНІЗОЎВАЕЦЕ БАІ… ЛЮДЗІ ГІНУЦЬ ДЗЕЛЯ ВАШАЙ ЗАБАВЫ!
ВЫ ЖЫВЁЛІНЫ!
ГУБЕРНАТАР… ЁН АДПРАВІЎ МЯНЕ… АЛЕ Я Б НЕ ПРЫВЁЎ ЯГО СЮДЫ. ІНШЫХ, ЖАНЧЫН, ДЗЯЦЕЙ, НЕ ДРЭННЫХ, ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ. МЫ Б ТАК САМА ЎЦЕКЛІ АД ЯГО.
ЯНЫ Б НЕ ЗРАБІЛІ ВАМ БОЛЬНА… З ТВАЁЙ СЯМ'ЁЙ УСЁ БЫЛО Б ДОБРА.
ДОБРА?! ТЫ ДАВЯРАЕШ ГЭТЫМ ЛЮДЗЯМ?!
ГЭТАГА НЕ БУДЗЕ, МАРЦІНЭЗ! НЯЎЖО ТЫ НЕ ВЕДАЕШ, НА ШТО ЗДОЛЬНЫЯ ЛЮДЗІ?!
ІРКК!
Я…
…
Я…
ЛІЧУ, ШТО Ў МЯНЕ ЁСЦЬ…
…ІДЭЯ.


ХКК.
ХКК.


ХВАЛЮЕШСЯ?
Я? УЖО НЕ. НЕ ЗАРАЗ.
ХУТЧЭЙ Я БОЛЬШ КЛАПАЧУСЯ АБ ТЫМ, КАБ БЫЦЬ У СТАНЕ ПАДНЯЦЦА РАНІЦАЙ... ПА МЕШНАЙ МЕРЫ ТАК, КАБ НЕ ЎПАСЦІ ЗНОЎ НА ЛОЖАК.
ГЭТА НЕ ЗНАЧЫЦЬ, ШТО Я МЕНЬШ КЛАПАЧУСЯ АБ РЫКУ, ГЭТА НЕ ТАК. ПРОСТА ЁН ЗАЎСЁДЫ ВЯРТАЕЦЦА НАЗАД. Я Б ХУТЧЭЙ ЗДЗІВІЛАСЯ, КАЛІ Б ЁН НЕ ВЯРНУЎСЯ.
ТАК, Я ХВАЛЮЮСЯ, АЛЕ ВЕДАЮЧЫ ГЭТА, Я БОЛЬШ НЕ АДЧУВАЮ СЯБЕ ВІНАВАТАЙ, КАЛІ НЕ ХВАЛЮЮСЯ ЗА ЯГО. НАВАТ ПАСЛЯ ТАГО, ШТО З ІМ ЗДАРЫЛАСЯ.
МАГЧЫМА, ГЭТА ПРОСТА АБАРОНЧЫ МЕХАНІЗМ. ПРАЦЯГВАЦЬ УВЕСЬ ЧАС ХВАЛЯВАЦЦА... ЗАЎВАЖАЦЬ, ШТО ДУМАЕШ, ЯК ПРЫЙДЗЕЦЦА ВЫХОЎВАЦЬ КАРЛА... І НОВАЕ ДЗІЦЯЦІ БЕЗ РЫКА, ГЭТА МОЖА ЗЖЭРЦІ МЯНЕ. МАБЫЦЬ МНЕ ПРОСТА ТРЭБА ПЕРАСТАЦЬ ХВАЛЯВАЦЦА АБ ВЫЖЫВАННІ.
НЯ ВЕДАЮ... ЦІ ЁСЦЬ У ГЭТЫМ СЭНС?
СЭНС? НЯ ВЕДАЮ. МНЕ ЎСЁ ГЭТА ЗДАЕЦЦА РАЗУМНЫМ.
АЛЕ НА СВЕЦЕ НЕ ШМАТ РЭЧАЎ, У ЯКІХ ЗАРАЗ ЁСЦЬ СЭНС, ЗГОДНА?
ТАК БЫЛО ЗАЎЖДЫ?
ТАК.
МАБЫЦЬ МЫ ПРОСТА ПАДМАНВАЛІ САМІ СЯБЕ, ПАКУЛЬ НЕ ЗДАРЫЛАСЯ ШТОСЬЦІ САПРАЎДЫ СУР'ЁЗНАЕ, КАБ ПРЫМУСІЦЬ НАС СПЫНІЦЦА І ЎСВЯДОМІЦЬ У ЯКІМ ЗВАР'ЯЦЕЛЫМ СВЕЦЕ МЫ ЖЫВЁМ.


ТАК.
ХА!
ЦЯПЕР ТЫ ДАГАНЯЕШ!
НЯ ЧЭСНА!
ТЫ ХУТЧЭЙ ЗА МЯНЕ!
Я БОЛЬШ НЕ ХАЧУ ГУЛЯЦЬ. Я СТАМІЛАСЯ.
ТЫ ДАГНАЎ МЯНЕ ЗАНАДТА ХУТКА.
ПРАБАЧ. ТАДЫ ЧЫМ ТЫ ХОЧАШ ЗАНЯЦЦА?
МОЖАМ ПАГУЛЯЦЬ У МЯЧ.
ПРОСТА ГЭТА ГУЛЬНЯ ДЛЯ ХЛОПЦАЎ. ЧАМУ Б НЕ ЗГУЛЯЦЬ У НЕШТА ДЛЯ ДЗЯЎЧЫНАК?
ЯК ЛІЧЫШ, РУКА ТВАЙГО ТАТЫ ВЫРАСЦЕ ЗНОЎ? ЛІЧЫШ, ТАКОЕ МОЖА БЫЦЬ?
ВЫРАСЦЕ? НЕ. ГЭТА НЕМАГЧЫМА.
НЕ, МАГЧЫМА. МАЯ МАЦІ ЧЫТАЛА МНЕ НА НАЧ КНІГУ ПА БІЯЛОГІІ. ДЫК ВОСЬ, У ЁЙ НАПІСАНА, ШТО ЯШЧАРКІ МОГУЦЬ НАНАВА АДРАСЦІЦЬ СВОЙ ХВОСТ.
ГЭТА НАКШТАЛТ ТАГО, ТАК?
НЕ. НЕКАТОРЫЯ ЖЫВЁЛІНЫ МОГУЦЬ РАБІЦЬ ТОЕ, ШТО МЫ НЕ МОЖАМ.
ЯК ПТУШКІ. МОЙ ТАТА Ж НЕ МОЖА ЛЯТАЦЬ.
НЯ ТРЭБА ТАК ГРУБА.
ПРАБАЧ.
МЫ ЎСЁ ЯШЧЭ З ТАБОЙ ПАРА?
ТАК.
ГЭЙ.


ХЕРШАЛ? СЭР? ЁСЦЬ ХВІЛІНКА?
Я ЗДАЕЦЦА ХАЦЕЎ БЫ ПАРАЗМАЎЛЯЦЬ З ВАМІ ПРА НЕШТА.
ШТО ТАКОЕ, ГЛЕН? УСЁ ДОБРА?
ШТО ГЭТА Ў ЦЯБЕ Ў РУЦЭ?
ХАДЗІ СЮДЫ, СЫНОК. КАЛІ ТЫ ХАЦЕЎ МАЙГО АДАБРЭННЯ, ТАДЫ ТЫ ЯГО АТРЫМАЎ.
ЗРАБІ ЯЕ ШЧАСЛІВАЙ... БЕРАЖЫ ЯЕ. ГЭТА ЎСЁ, ШТО Я ПРАШУ.
ШАНУЙ ВАС БОГ.
ОЙ, І КАЛІ ЛАСКА... ГЛЯДЗІ, КАБ ЯНА НЕ СТАЛА ЦЯЖАРНАЙ. НЕ ТУТ... ТОЛЬКІ НЕ Ў ГЭТЫМ СВЕЦЕ.
ХАЦЯ Б НЕ ЗАРАЗ... А КАЛІ МЫ БУДЗЕМ ЦАЛКАМ АБАРОНЕНЫЯ.
ТАК... КАНЕШНЕ.
КАНЕШНЕ НЕ ЗАРАЗ.
ДЗЯКУЙ, ХЕРШАЛ.


УСЯГО ГАДЗІНУ НАЗАД Я ЛІЧЫЎ... ШТО БОЛЬШАСЦЬ ІСТОТ, ЯКІХ МЫ ВЫЦЯГНУЛІ АДСЮЛЬ, БЫЛА ЛЯГЧЭЙ. Я ЦЯГНУЎ ІХ БЕЗ ПРАБЛЕМ, РАЗУМЕЕШ, ПРА ШТО Я?
ЦЯПЕР... ЯНЫ, ЗДАЕЦЦА, СТАЛІ ЦЯЖЭЙ, ЧЫМ ЗВЫЧАЙНА. Я ПАДЫХАЮ, ЧУВАК. НЯ ВЕДАЮ, ЦІ ЗМАГУ Я ПРАЦЯГНУЦЬ ПАСЛЯ ГЭТАГА.
НЕКАТОРЫЯ З ІХ ЦЯЖЭЙ, ЧЫМ ІНШЫЯ. ТАК САМА, ЯК І ЛЮДЗІ.
ГЭТЫ АПОШНІ НА СЁННЯ. УЖО ПОЗНА. СОНЦА АМАЛЬ СЫШЛО.
ГЭТА СУЦЯШАЕ.
ТЫ РАЗМАЎЛЯЎ З ГЭТАЙ ЧОРНАЙ ДЗЯЎЧЫНАЙ... ЦІХОНЯЙ? ЯК ЯНА?
ЧУЎ У ЯЕ БЫЛІ НЕЙКІЯ ПРАБЛЕМЫ, КАЛІ ЯНЫ ЎХАДЗІЛІ.
ТАК, АЛЕ Я НЕ ЦАЛКАМ ВЕДАЮ ЎСЮ ГЭТУЮ ГІСТОРЫЮ, І НАЎРАД ЦІ ДАВЕДАЮСЯ КАЛІ-НЕБУДЗЬ. ЯНА ПРОСТА ТРЫМАЕ ЎСЁ Ў САБЕ.
Я ДАЎ ЁЙ ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО КАЛІ ЯНА ЗАХОЧА З КІМСЬЦІ ПАГАВАРЫЦЬ, ТАДЫ Я БУДУ РАДЫ БЫЦЬ ДЛЯ ЯЕ ГЭТЫМ ЧАЛАВЕКАМ. КАЛІ ШЧЫРА... Я ЎВОГУЛЕ НЕ МАГУ ЗРАЗУМЕЦЬ ГЭТУЮ ЖАНЧЫНУ.
НУ ВЕДАЕШ... ЯК ЗАЎСЁДЫ.
МНЕ ШКАДА, ШТО МЫ РАЗЫШЛІСЯ З КЭРАЛ. ТАК НЯСПРЫТНА АТРЫМАЛАСЯ З ЁЙ... І ЯК ЦЯЖКА ЯНА ЎСПРЫНЯЛА ГЭТА... ШТО ЗРАБІЦЬ.
...
НЯ ВАЖНА.


ШТО Ж... ХУТКА ЁН.
ШТО ГЭТА Ў ЯГО НА КАПОЦЕ?
ТЫ Ж ВЫМЫЕШ ЯГО АД РЭШТКАЎ ЗОМБІ... ТАК?
ТАК... НЕ ТУРБУЙСЯ. Я ПАКЛАПАЧУСЯ АБ ГЭТЫМ.
ТЫ СХАПІЎ ЯГО? ПРЫЦЯГНУЎ ЯГО НАЗАД? ДЗЕ ЁН?
Я НЕ ПРЫВЕЗ ЯГО.
ДАПАМАЖЫЦЕ МНЕ ЗАЧЫНІЦЬ ВАРОТЫ, ПАКУЛЬ НЕ ПАВЕЧАРЭЛА. УБЯРОМ АСТАТНІЯ ЦЕЛЫ ЗАЎТРА... А ЗАРАЗ НАМ ТРЭБА ЎНУТР.
Я ЗБІРАЮ АГУЛЬНЫ ЗБОР.


НАВАТ НЯ ВЕДАЮ... МАГУ Я ПАДУМАЦЬ?
...
ОХ, ТЫ ПАВЕРЫЎ?! КАНЕШНЕ, Я ВЫЙДУ ЗА ЦЯБЕ! ЧОРТ... НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ, ШТО ТЫ НЕ ЗРАЗУМЕЎ, ШТО Я ЖАРТУЮ.
У СЭНСЕ... НЕ ПАДОБНА, ШТО Ў МЯНЕ ЁСЦЬ ІНШЫ ВЫБАР.
...
І... Я БЕЗУМОЎНА КАХАЮ ЦЯБЕ, ЁЎБАЛА.
НУ... ПАЙСЦІ Ў ЦАРКВУ Ў НАС ДАКЛАДНА НЕ АТРЫМАЕЦЦА. ЯК ТЫ САБЕ ГЭТА ЎЯЎЛЯЕШ? ПАСТАІМ ПЕРАД УСІМІ, ПАТРЫМАЕМ АДЗІН АДНАГО ЗА РУКІ ЦІ ЯШЧЭ ШТОСЬЦІ?
НЕ, Я ДУМАЎ ПАПРАСІЦЬ ТВАЙГО БАЦЬКУ ПРАВЕСЦІ ЦЫРЫМОНІЮ.
ЁН ТУТ САМЫ РЭЛІГІЁЗНЫ... НАКОЛЬКІ Я ВЕДАЮ... ТАК ШТО ЁН САМАЯ ЛЕПШАЯ КАНДЫДАТУРА НА РОЛЮ СВЯТАРА.
ЛІЧУ, БУДЗЕ ПРЫГОЖА... ЁН ПРАЧЫТАЕ ШТО-НЕБУДЗЬ З БІБЛІІ... ТАМУ ЎСЁ БУДЗЕ ВЫГЛЯДАЦЬ ЯК ТРЭБА.
ТАДЫ МЫ ЗМОЖАМ АФІЦЫЙНА ПРАВОДЗІЦЬ КОЛЬКІ ЗАЎГОДНА ЧАСУ РАЗАМ, ЯК МУЖ І ЖАНА.
Я КАХАЮ ЦЯБЕ.
Я ТАКСАМА ЦЯБЕ КАХАЮ.


ЯК ЁН?
ЁН СПІЦЬ... ЁН ВЕЛЬМІ СТАМІЎСЯ. ЯК БЫ ЁН НЕ СУПРАЦІЎЛЯЎСЯ, ЁН ЗАСНУЎ АДРАЗУ, ЯК ТОЛЬКІ ЯГО ГАЛАВА КРАНУЛАСЯ ДА ПАДУШКІ.
БІЛІ ПАГЛЯДЗІЦЬ ЗА ДЗЕЦЬМІ, ПАКУЛЬ УСЕ БУДУЦЬ НА ЗБОРЫ. ХЕРШАЛ ПРЫМУСІЎ ЯГО... ПРОСТА ЁН ДАСТАТКОВА ДАРОСЛЫ, КАБ БЫЦЬ АДКАЗНЫМ І ЗАНАДТА МАЛАДЫ, КАБ ПРЫМАЦЬ УДЗЕЛ У ЗБОРЫ.
ТЫ ГАТОВЫ?
НЕ.
ЛОРЫ, СЁННЯ Я ЗАБІЎ ЧАЛАВЕКА.
МАРЦІНЭЗА, ЧАЛАВЕКА З ВУДБЭРЫ, ЯКІ ДАПАМОГ НАМ УЦЯКЧЫ АДТУЛЬ... ЁН ПРАЦАВАЎ НА ІХ. ЁН ПРЫЙШОЎ СЮДЫ, КАБ ДАВЕДАЦЦА, ДЗЕ ЗНАХОДЗІЦЦА ГЭТАЕ МЕСЦА.
ВОСЬ КУДЫ Я ЎЯЗЖАЎ НА ФУРГОНЕ.
ЁН УШОЎ СЁННЯ. ЁН ЗБІРАЎСЯ ПРЫВЕСЦІ ІХ ДА НАС. Я СПЫНІЎ ЯГО.
ПАСЛЯ ТАГО, ЯК Я ЗАБІЎ ЯГО, Я НЕШТА ЗРАЗУМЕЎ... ГЭТА ДАПАМАГЛО МНЕ ЗРАЗУМЕЦЬ, ЯК МОЦНА Я ЗМЯНІЎСЯ. Я ЗАЎСЁДЫ БЫЎ ДОБРЫМ ПАЛІЦЭЙСКІМ... МАЯ ПРАЦА СКЛАДАЛАСЯ З ТАГО, КАБ ПАДТРЫМЛІВАЦЬ ЗАКОН. А ЗАРАЗ Я АДЧУВАЮ СЯБЕ, ЯК НЕПАПАРАДКАВАНЫ ЗАКОНАМ ДЗІКУН... ЯК ЖЫВЁЛІНА.
СЁННЯ Я ЗАБІЎ ЧАЛАВЕКА І МЯНЕ ГЭТА НАВАТ НЕ ХВАЛЮЕ. Я ЗРАБІЎ ГЭТА ТАМУ, ШТО ДУМАЎ, ШТО Ў МЯНЕ БЫЛА ПРАВІЛЬНАЯ ПРЫЧЫНА. Я НАВАТ НЕ ДУМАЎ, КАЛІ РАБІЎ ГЭТА.


І ЎСЁ Ж ТАКІ ТЫ ЎСЁ ПРАВІЛЬНА ЗРАБІЎ. ЁН БЫ ПРЫВЁЎ СЮДЫ ЛЮДЗЕЙ, ЯКІЯ Б НАМ НАШКОДЗІЛІ, КАРЛУ, МНЕ... НАВАРОДЖАНАМУ.
ТЫ ЎСЁ ЗРАБІЎ ПРАВІЛЬНА І ТЫ НЕ ПАВІНЕН КАТАВАЦЬ СЯБЕ ЗГРЫЗОТАМІ СУМЛЕННЯ.
ГЭТА НЕ ТОЕ, ШТО Я ХАЦЕЎ СКАЗАЦЬ. ЗАБОЙСТВА МАРЦІНЭЗА... ЁНО МЯНЕ НЕ КРАНУЛА... ЗУСІМ. АЛЕ ПРЫМУСІЛА МЯНЕ ЗРАЗУМЕЦЬ, ЯКІМ БЕСЧУЛЫМ Я СТАЎ.
Я Б ЗАБІЎ ТУТ УСІХ ДА АДНАГО, КАЛІ Б ВЕДАЎ, ШТО ТАДЫ ВЫ БУДЗЕЦЕ Ў БЯСПЕЦЫ. Я ВЕДАЮ ГЭТЫХ ЛЮДЗЕЙ... Я КЛАПАЧУСЯ АБ ІХ... АЛЕ Я ВЕДАЮ, ШТО ЗДОЛЬНЫ ПРЫНЕСЦІ ГЭТУЮ АХВЯРУ.
Я БАЧЫЎ ТАК ШМАТ СМЕРЦЯЎ... ШТО Ў МЯНЕ ЎЖО АМАЛЬ НЯМА НІЯКАЙ ПРЫХІЛЬНАСЦЬ ДА ГЭТЫХ ЛЮДЗЕЙ... ЗУСІМ... І Я МАГУ ЗАБІЦЬ ЛЮБОГА З ІХ У ЛЮБЫ МОМАНТ, КАЛІ Ў МЯНЕ БУДЗЕ ПРАВІЛЬНАЯ ПРЫЧЫНА.
ЧАСАМ Я ЗАЎВАЖАЮ, ШТО АЦЭНЬВАЮ ІХ... ГЛЯДЖУ НА ІХ І ДУМАЮ... ХТО МНЕ БОЛЬШ ПАДАПАЕЦЦА... ХТО МНЕ БОЛЬШ ПАТРЭБНЫ... ПРОСТА НА ВЫПАДАК, КАЛІ ШТОСЬЦІ ЗДАРЫЦЦА І МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ВЫБІРАЦЬ.
ШТО РОБІЦЬ МЯНЕ ДРЭННЫМ? НЯЎЖО ГЭТА НЕ ЗЛО?
Я... Я НЯ ВЕДАЮ.
ЯК І Я.


...ПАСЛЯ ТАГО, ЯК МЫ ВЫРВАЛІСЯ АДТУЛЬ. МЫ ПРЫЕХАЛІ І АКАЗАЛАСЯ, ШТО ТУРМА НАПОЎНЕНА ХАДЗЯЧЫМІ. У РЭШЦЕ РЭШТ МЫ ЗМАГЛІ ПРАБІЦЦА ЎНУТР І ЗНАЙШЛІ ЎСІХ ВАС ТУТ.
УСІХ, АКРАМЯ ОЦІСА.
Я ПАДАЗРАВАЎ МАРЦІНЭЗА, АЛЕ ПА ДАРОЗЕ З ВУДБЭРЫ Я ПАЧАЎ ДАВЯРАЦЬ ЯМУ... ІНАЧ Я НЕ ПРЫВЁЎ БЫ ЯГО СЮДЫ. СЁННЯ... ЁН УЦЁК.
ЁН НЕ ДАЙШОЎ ДА ВУДБЭРЫ... ЯНЫ НЕ ДАВЕДАЛІСЯ ПРА НАША ДАКЛАДНАЕ МЕСЦАЗНАХОДЖАННЕ, АЛЕ ЯНЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ТАМ, І ІХ НЕПАСРЭДНАЯ БЛІЗКАСЦЬ ПРЫМУШАЕ МЯНЕ ДУМАЦЬ, ШТО АДНОЙЧЫ ЯНЫ ЗНОЙДУЦЬ НАС.
ДЫК ШТО ТЫ ПРАПАНУЕШ? УЕХАЦЬ?
НЕ, НІ Ў ЯКІМ ВЫПАДКУ. Я ПАМЯТАЮ ПРАЗ ШТО МЫ ПРАЙШЛІ, ПАКУЛЬ НЕ ЗНАЙШЛІ ГЭТА МЕСЦА. І Ў МЯНЕ НЯМА НІЯКАГА ЖАДАННЯ КІДАЦЬ ЯГО.
ЯК ДАЛЁКА ГЭТАЯ БАЗА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГВАРДЫІ, НА ЯКОЙ ЯНЫ ЗНАЙШЛІ СВАЮ ЗБРОЮ? МАБЫЦЬ МЫ ТАКСАМА МАГЛІ Б ЗРАБІЦЬ ТУДЫ ВЫПРАЎКУ ЗА БОЕПРЫПАСАМІ?
Я НЯ ВЕДАЮ... Я НІКОЛІ ТАМ НЕ БЫЛА... АЛЕ ЎСЕ ЗАЎСЁДЫ КАЗАЛІ АБ ЁЙ ТАК, БЫЦЦА ГЭТА ЗУСІМ РАДАМ. ВОСЬ І ЎСЁ, ШТО Я ВЕДАЮ.
ДЫК ЯНЫ ЗБІРАЛІСЯ І ГЛЯДЗЕЛІ, ЯК ЛЮДЗІ НА АРЭНЕ Б'ЮЦЦА ДА СМЕРЦІ ДЗЕЛЯ ПАЦЕХІ?
ШТО Ж ГЭТА ЗА ЛЮДЗІ ТАКІЯ?
ТЫ КАЗАЎ, ШТО ГЭТЫ... ГУБЕРНАТАР МАГЧЫМА МЁРТВЫ? АМУ ТЫ ТАК НЕ ЎПЭЎНЕНЫ?
ШТО ДАКЛАДНА ТЫ ЗРАБІЛА З ІМ, МІЧОНІ?


ЗАРАЗ НАМ ТРЭБА КЛАПАЦІЦЦА АБ ТЫМ, ШТО ЯНЫ РАДАМ, А АБ ДЭТАЛЯХ БУДЗЕМ ХВАЛЯВАЦЦА ПАЗНЕЙ. ХУТКА ЯНЫ ЗРАЗУМЕЮЦЬ, ШТО МАРЦІНЭЗ УЖО НЕ ВЕРНЕЦЦА... ШТО ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ ЁН МЁРТВЫ... І ТАДЫ ЯНЫ ПРЫЙДУЦЬ ЗА НАМІ.
У НАС ЗАСТАЎСЯ МАБЫЦЬ ТЫДЗЕНЬ, МАБЫЦЬ МЕСЯЦ, АЛЕ ЯНЫ ЎСЁ РОЎНА НАС ЗНОЙДУЦЬ.
НАМ ТРЭБА БЫЦЬ УПЭЎНЕНЫМІ, ШТО КАЛІ ЯНЫ ПРЫЙДУЦЬ СЮДЫ...
МЫ БУДЗЕМ ГАТОВЫЯ ДА СУСТРЭЧЫ З ІМІ.


NEXT ISSUE
ПРАЦЯГ НА ComicsBY.by БУДЗЕ!
The ninth month begins...